ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

Каталіцкі ВЕСНІК

№11 (32) лістапад 2013 год

ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ

Кошт свабодны



# На службе Касцёлу

## У Мінску адбылася агульнабеларуская сустрэча святароў

**Другая агульнабеларуская сустрэча святароў, прымеркаваная да завяршэння Года веры, адбылася 15 лістапада ў мінскай парафіі Святых Сымона і Алены ў Чырвоным касцёле. Тэма сустрэчы: «Святло веры – святарская вернасць».**

**Ірына Грэйць, тэкст і фота**

Ужо другі раз святары з усёй краіны сабраліся разам. Першая сустрэча адбылася ў 2009 г. у Чырвоным касцёле і была прымеркавана да Года святарства.

Разам са святарамі з розных куткоў краіны сёлета на спатканні прысутнічаў Апостальскі Нунцый арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроці, Старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў Беларусі Гродзенскі біскуп Аляксандр Кашкевіч, Пінскі біскуп Антоній Дзям'янка і дапаможны біскуп Казімір Велікаселец, Апостальскі адміністратар Віцебскай дыяцэзіі ксёндз-прэлат Францішак Кісель, Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў архімандрыт Сяргей Гаек.

### Сэрца святара

Сустрэча пачалася малітвай літургіі гадзінаў, пасля чаго адбылося выстаўленне Найсвяцейшага Сакраманту. Кожны святар меў магчымасць ачысціць сваё сэрца, прыступіўшы да сакраманту споведзі.

Пасля айцец Станіслаў Памыкала SI прамовіў духоўную канферэнцыю. Асаблівую ўвагу святароў айцец Станіслаў звярнуў на тое, што неабходна вялікую ролю надаваць свайму сэрцу. "Святар можа займацца, напрыклад, рамонтам і іншымі справамі, але больш важным з'яўляецца менавіта праца над сваім сэрцам", – адзначыў ксёндз. Айцец Станіслаў прапанаваў святарам паразважаць над пытаннем, "ці ўмеем мы прыняць Божы народ?" Божага народу, паводле слоў святара, няма без Эўхарыстыі, таму неабходна малітва аб тым, каб "па-сапраўднаму цэлебраваць Эўхарыстыю". На заканчэнне айцец Памыкала нагадаў духавенству пра важнасць малітвы брэвярыя.

### Святар пакліканы служыць, а не валадарыць

Наступным пунктам сустрэчы стала выступленне Мітрапаліта Мінска-Магілёўскага арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча.

Працяг чытайце на стар. 2

# Тэлевізар і выхаванне



У жыцці кожнай сям'і наступае момант, калі дзіця пачынае цікавіцца ўключаным тэлевізарам ці камп'ютарам, які ў гэты час працуе. Мільгаценне малюнкаў на экране або маніторы прыцягвае ўвагу, захапляе, а перад бацькамі ставіць сур'ёзную праблему: як, у якім выглядзе і колькі дазваляць дзіцяці бавіцца з гэтымі сучаснымі прыладамі і ці дазваляць наогул?

Пра шкодны ўплыў тэлевізара і камп'ютара на дзяцей і падлеткаў сказана і напісана вельмі шмат. На мой погляд, увесь аб'ём гэтай інфармацыі можа быць падзелены на дзве катэгорыі: колькасны і якасны.

Колькасны аспект шкоднага ўплыву сучаснай тэхнікі вымяраецца тым часам, які дзеці праводзяць ля тэлевізара ці камп'ютара. Тут мы можам пачаць пра шкоду для вачэй, мускулатуры і коснай сістэмы дзіцяці (напрыклад, рызыка развіцця скаліёзу, блізарукасці і г.д.).

Працяг чытайце на стар.6



*Працяг са стар.1*

Мы павінны памятаць таксама аб тым, што пакліканы служыць, а не валадарыць. Служыць усім, без выключэння, людзям, каб весці іх да Бога. Езус прыйшоў не для таго, каб Яму служылі, але каб паслужыць (пар. Мц 20, 28). І ў нашым святарскім служэнні мы павінны браць прыклад з Яго. Не быць толькі "аўтаматамі", якія цэлебруюць сакраманты, але сапраўднымі слугамі… Ужо мінулі часы, калі людзі шукалі святара. Сёння нам, святарам, трэба шукаць людзей. Таму ў сваёй дзейнасці нам неабходна выкарыстоўваць усе магчымасці, каб данесці Добрую Навіну іншым, – звярнуў увагу Мітрапаліт.

Іерарх дадаў таксама, што "для паспяховага выканання пастырскіх заданняў неабходна сталая чалавечая, духоўная, інтэлектуальная і пастырская фармацыя. Калі ў дзяржаве існуюць курсы павышэння кваліфікацыі розных спецыялістаў, то чаму мы нярэдка думаем, што з заварэшэннем семінарыі наша фармацыя таксама завяршылася? Без яе, асабліва без малітвы, мы станем падобнымі да сухога дрэва, якое не дае плёну".

### Папа неабыякавы да жыцця беларускіх святароў

Свае словы да прысутных святароў прамовіў Апостальскі Нунцый у Беларусі арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроці.

Арцыбіскуп выказаў думку пра тое, што гэтая сустрэча "дапаможа выявіць, у чым нашы праблемы і дзе наша надзея".

Апостальскі Нунцый нагадаў святарам, што два месяцы таму сустракаўся ў Рыме з Папам Францішкам, і распавёў удзельнікам сустрэчы, пра што запытаўся ў яго Пантыфік і што прасіў перадаць духавенству ў Беларусі. Першым пытаннем, якое паставіў Папа, было: "Якія святары ў Беларусі?" Святы Айцец пытаўся таксама: "Ці багатыя яны?", а пасля дадаў, што "ў духавенстве не павінна быць больш багатых і бедных". Паводле слоў арцыбіскупа, Святы Айцец пытаўся, "ці з'яўляюцца гэтыя святары прапаведнікамі Божай міласэрнасці, або яны суровыя да людзей і імкнуцца паказаць, наколькі людзі грэшныя?" Пантыфік цікавіўся таксама, "ці не былі беларусы ў сваёй гісторыі занадта жорстка трактаваныя, каб яшчэ і святары былі да людзей жорсткімі падчас споведзі?"

Арцыбіскуп перадаў беларускаму духавенству словы Папы: "Я не баюся за святароў, якія робяць памылкі, якія слабыя, часамі падаюць, – я баюся святароў карумпаваных, якія звонку здаюцца прыгожымі, але ўнутры поўныя бруду. Пачынаецца з таго, што "яны больш не моляцца, а затым трацяць адрозненне дабра ад зла ў сваім сумленні".

"Папа Францішак гаворыць вельмі проста, але вельмі ясна і адназначна", – падкрэсліў Апостальскі Нунцый. Па словах іерарха, Пантыфік заўважыў: "Нам патрэбныя святары, годныя народа, які пакутаваў". Святы Айцец перадаў святарам і біскупам Беларусі, "каб яны ішлі разам", "гаварылі паміж сабой, адкрылі сэрцы адно аднаму, бо ў Касцёле няма генерала і шараговага – ёсць толькі браты".

На заканчэнне Нунцый расказаў, што кожнаму з беларускіх святароў Папа прасіў перадаць сваё блаславенне і абняць кожнага.

### Святарская міласэрнасць і пакора

Пасля сустрэчы з Апостальскім Нунцыем святары праслухалі даклад ксяндза доктара Уладзіміра Гуляя на тэму "Святар на службе Касцёлу і грамадству ў сучаснай рэчаіснасці". "Для служэння сучаснаму разгубленаму чалавецтву Касцёлу неабходны, нібы паветра, святыя, мудрыя, міласэрныя, напоўненыя любоўю да людзей, устойлівыя перад матэрыяльнымі спакусамі, вольныя ад пыхлівасці, легкадумнасці і бруду святары, якія пастаянна будуць шукаць згубленыя душы і весці іх бяспечным шляхам да збаўлення", – падкрэсліў выступоўца.

Кс. Уладзімір Кадзначыў, што "сучасны святар павінен быць добра адукаваным, дасведчаным у галіне задач, якія належыць выканаць, а ў першую чаргу – быць падобным да Хрыста ў Яго пакоры, беднасці, чысцасці і любові да бліжняга"; "павінен быць тонкім умельцам, спецыялістам-прафесіяналам і віртуозным лекарам, здольным распазнаць тонкія і глыбокія духоўныя з'явы"; "быць аднachасова адукаваным чалавекам, які валодае мастацтвам слова, які мае густ, такт, чуласць, вытанчанасць і сілу", і "ўсё гэта належыць выконваць у прастаце праўды, у пакоры любові".

Наступным пунктам праграмы былі круглыя сталы, на якіх святары абмяркоўвалі найбольш важныя тэмы і праблемы Касцёла.

Напрыканцы сустрэчы адбылася святая Імша, якую ўзначаліў біскуп Аляксандр Кашкевіч.

**Рэдакцыя дзякуе!**

**Дарагія сябры!** Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі. Жадаем усім Вам шмат Божай ласкі і Божага блаславення!

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Марыя Матус** (г. Валожын), **Вольга Парневіч** (агр. Крулеўшчына, Докшыцкі р-н), **Вацлаў Пашкевіч** (в. Бігосава, Верхнядзвінскі р-н), **Соф'я Машара**, (г. Мёры), **Юрый і Тэрэза Парфяновіч** (г. Браслаў), **Лія Мацюшонак** (в. Прошкава, Глыбоцкі р-н), **Галіна Глушкевіч** (в. Віржы, Докшыцкі р-н), **Леанід Грыбач** (г. Гомель).

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожную першую суботу месяца адпраўляецца св. Імша.

Дарагія сябры, дапамажыце нам несці Добрую Вестку! Раскажыце сваім родным і знаёмым пра "Каталіцкі Веснік". Чакаем вашых артыкулаў, фотаздымкаў, ахвяраванняў. Разам мы зможам расказаць людзям пра Хрыста і яго Касцёл.

**Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"**

# ЗАГІНУЎ СВЯТАР

**8 лістапада ў Івянцы адбылося пахаванне а. Андрэя Ахрэма OFMConv, які загінуў у аўтакатастрофе 4 лістапада. Пахавальную цырымонію ў касцёле Святога Міхала Арханёла і на могілках узначаліў біскуп Пінскі Антоні Дзям'янка.**

7 лістапада са святаром развіталіся на яго радзіме, у Вілейцы. Пры целе загінулага памаліўся Апостальскі Нунцый у Беларусі арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроці. Спачуванні ў сувязі з трагічнай смерцю а. Андрэя Ахрэма даслаў Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, які знаходзіўся ў Германіі, дзе прэзэнтавалася канцэпцыя праекту "Мемарыял у Трасцянцы".

У пахавальнай цырымоніі ўдзельнічалі субраты загінулага – францішкане з Беларусі, Расіі, Украіны і Польшчы. Да супольнай малітвы аб збаўленні душы а. Андрэя Ахрэма далучыліся дыяцэзіяльныя святары з розных мясцін Беларусі, сёстры законныя і шматлікія вернікі з Вілейкі – радзімы а. Ахрэма, з парафій у Івянцы і Камені, дзе ён служыў, яго родныя, сябры, знаёмыя і ўсе, каго закранула яго смерць.

Айцец Андрэй Ахрэм нарадзіўся 9 сакавіка 1981 года ў Вілейцы ў сям'і Віктара і Людмілы Ахрэмаў. Быў ахрышчаны ў Праваслаўнай Царкве, паколькі шлюб яго бацькоў змешаны. Пасля заканчэння Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі быў накіраваны на працу ў Віцебск, дзе прыняў рашэнне перайсці ў каталіцкую веру, што і зрабіў 7 жніўня 2004 г. З таго часу актыўна ўдзельнічаў у жыцці мясцовай парафіі Святой Барбары як міністрант і член Легіёна Марыі, паглыбляў сваю веру праз катэхезу для дарослых. Адчуўшы жаданне больш глыбокага духоўнага жыцця, вырашыў уступіць у манаскую супольнасць.

У 2005 г. ён распачаў пастулат у Івянцы, затым працягваў фармацыю ў айцоўфранцішканаў у Лодзі (Польшча). Першыя шлюбы склаў 15 верасня 2007 г., вечныя шлюбы – 8 снежня 2011 г. Прэсвітарскае пасвячэнне атрымаў 1 чэрвеня 2013 г.

Служыў у парафіі Святога Міхала Арханёла ў Івянцы, у апошні час таксама атачаў пастырскай апекай парафію Святых апосталаў Пятра і Паўла ў Камені (Мінска-Магілёўская архідыяцэзія).

***Паводле catholic.by***

Рэдакцыя «Каталіцкага Весніка» далучаецца да малітвы за святой памяці а. Андрэя Ахрэма і выказвае самыя шчырыя спачуванні блізкім і родным загінулага святара.

*Вечны адпачынак дай яму, Пане, а святло вечнае няхай яму свеціць. Няхай адпачывае ў супакоі.*

***Амэн.***



Паставы

**Паставы вядомыя многім як горад высокай музычнай культуры, дзе кожны год ладзіцца фестываль народнай музыкі, што набыў ужо статус міжнароднага. З гэтае нагоды намеснік міністра культуры Беларусі Т.І.Стружэцкі звярнуўся асабіста да арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча з ініцыятывай правядзення фестывалю арганнай музыкі ў Пастаўскай парафіі.**

**Аліцыя Трафімовіч**

Гэта прапанова была з удзячнасцю прынятая, і 19-20 кастрычніка адбыліся вялікія канцэрты ў нашым касцёле, а таксама ў Лынтупах, у Камаях і ў Лучаі. У свяце арганнай музыкі ўдзельнічалі вядомыя музыканты: народны артыст, кампазітар Ігар Алоўнікаў, саліст Белдзяржфілармоніі Канстанцін Шароў, салістка Полацкай канцэртнай залы "Сафійскі сабор" Ксенія Пагарэлая і іншыя таленавітыя выканаўцы.

Пасля св. Імшы ўсе вернікі засталіся ў касцёле, каб паслухаць чароўную музыку. Як адзначыў сп. Стружэцкі, духоўная музыка ў выкананні на аргане ўзмацняе і ўзвышае нашу веру, ачышчае верніка, робіць яго больш духоўна багатым і прыгожым. А ў нас, у Беларусі, арганаў амаль 100! Усе прысутныя на канцэрце былі вельмі ўзрушаныя і ўдзячныя выканаўцам за свята, якое яны нам падарылі.

Паралельна з фестывалем у нашым касцёле адбылася яшчэ адна падзея – "Дажынкі". Стала ўжо добрай традыцыяй славіць працаўнікоў зямлі і дзякаваць Пану Богу за Яго дары. Ганаровымі гасцямі на свяце былі ксёндз-прэлат з Рыма Дон Корнеллё і шаноўны кс. Уладзіслаў Завальнюк, які цэлебраваў св. Імшу. Былі таксама запрошаныя кіраўнікі мясцовай улады і аграпрамысловых прадпрыемстваў. Традыцыйна ладзілася выстава дароў зямлі і лекаў "з народнай аптэкі", адбылося дзяленне хлебам з усімі прысутнымі. Наш пробашч кс. Анджэй Возьняк шчыра падзякаваў за добрасумленную працу хлебаробам і ўсім працаўнікам, якія забяспечваюць нас прадуктамі харчавання. Гучалі падзякі Пану Богу і Маці Божай за дапамогу ў нашым жыцці, у працы і ў веры.

Падчас гэтых урачыстасцяў быў асвечаны набыты для касцёла абраз Маці Божай Вострабрамскай.

# ІМ – НАША ПАМЯЦЬ І МАЛІТВА



**Урочышча Ходараўка, што знаходзіцца на тэрыторыі параф'янаўскай парафіі Імя Марыі (Докшыцкі дэканат Віцебскай дыяцэзіі), мае сумную, жалобную гісторыю. З 27 па 29 чэрвеня 1944 года тут былі расстраляныя фашыстамі нявінныя людзі, мірныя жыхары навакольных вёсак, а разам з імі – 200 ваеннапалонных італьянскіх салдат. Агульная колькасць ахвяр – 800 чалавек. Жудасная лічба.**

**Марыя Дзюбак**

З той далёкай пары ваеннага ліхалецця прайшло шмат гадоў, але яны не сцёрлі ў памяці чалавечай страшнай трагедыі. Шчырыя рукі людскія ўвекавечылі яе ў помніку, крыжы, памятным знаку, у кветках, клапатліва пасаджаных на брацкіх магілах.

30 чэрвеня 2012 года ў Ходараўцы прайшоў Рэквіем па ахвярах Вялікай Айчыннай вайны, які надоўга запомніўся ўсім, хто на ім прысутнічаў. А 7 лістапада 2013 года, што стала ўжо традыцыяй, у актаве Усіх Святых там жа адбылася Св. Імша – малітва-ўспамін аб нявінных ахвярах Другой сусветнай вайны. У набажэнстве ўдзельнічалі не толькі людзі старэйшага пакалення, але і, што асабліва важна, шмат дзяцей, моладзі. Аддаць даніну памяці прыйшлі настаўнікі, працаўнікі палеткаў і вытворчасці, пенсіянеры, ад мясцовых уладаў прысутнічала старшыня Сітцаўскага сельскага Савета Ізабэла Януковіч.

Словы асаблівай удзячнасці наш пробашч кс. Раман Мурзіч, які і з'яўляецца ініцыятарам правядзення штогадовай памінальнай Літургіі ў Ходараўцы, выказаў дырэктару і настаўнікам Сітцаўскай сярэдняй школы – за добра наладжанае шэфства вучняў над месцам масавага пахавання людзей, за падтрыманне тут чысціні і належнага парадку.

Дзень 7 лістапада выдаўся пахмурным, але якраз на пачатку Св. Імшы на кароткі час з-за хмараў выглянула сонейка і асвяціла гэтае святое месца. Як быццам нябёсы паслалі сюды сваё міласэрнае святло. Спакой і цішыня. Нават ніводная галінка на дрэвах не зварухнецца.

Пранікнёныя словы Святога Пісання. Хвалюючае казанне ксяндза Рамана пра каштоўнасць для Пана Бога кожнага чалавечага жыцця, пра жахі вайны, што нясе з сабою нявінныя ахвяры, пра несмяротнасць душы і збаўчую моц нашай супольнай малітвы.

Святая Камунія, якую людзі прымаюць з верай і надзеяй на ўваскрашэнне памерлых. Запаленыя знічы ў руках юнакоў і дзяўчат, якія яны беражліва ставяць ля помніка і крыжа пад спеў "Анёл Панскі" ў атмасферы ўзаемаразумення і яднання ў Богу.

*У цішы, у роздуме, у малітве*
*Пакідаем мы святое месца.*
*Тым, хто паў ахвярамі ў бітве,*
*Вечны супакой… І памяць сэрцаў.*

## Запрашаем на "Сужэнскія сустрэчы!"

Асацыяцыя «Сужэнскія сустрэчы» праводзіць ўікенды па аднаўленні і паглыбленні сужэнскай еднасці і любові. Найбліжэйшы ўікенд адбудзецца **6-8 снежня 2013 года** і будзе праходзіць у **Цэнтры "Карытас" у вёсцы Ляскоўка каля Бараўлян (Мінскі раён).**

Рэкалекцыі пачынаюцца ў пятніцу ў 18.00, а заканчваюцца ў нядзелю каля 15.00. Арганізатары забяспечваюць начлег і харчаванне. Неабходны ўдзел абодвух сужэнцаў без дзяцей.

*Кантактныя нумары для запісу на рэкалекцыі:*

**Андрэй і Іна Любецкія**
**+375 29 1675867,**
**+375 29 6253548;**
**Павел і Алена Кузьміцкія**
**+375 29 6045467;**
**Іван і Алена Лубінскія**
**+375 29 5562635,**
**+375 29 1408456,**
**+375 29 7821466**
**e-mail: sustre4y@tut.by**



## Святар сустрэўся з прызыўнікамі

**У Браслаўскім раённым Доме культуры 5 лістапада былі арганізаваныя ўрачыстыя праводзіны для прызыўнікоў. Пяцьдзясят юнакоў з Браслаўшчыны адправіліся сёлета на службу ва Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь.**

**Іна Сапун**

Падчас сустрэчы да хлопцаў звярнуўся кс. Ігнат Санюта – пробашч з парафіі ў Ахрэмаўцах. Святар нагадаў прысутным словы з паслання святога Паўла да Цімафея, а потым акцэнтаваў увагу юнакоў на тым, што ў любой абстаноўцы трэба заставацца людзьмі, паважаць і падтрымліваць адзін аднаго. Ён нагадаў, што і падчас службы ў войску хрысціянам неабходна захаваць веру ў Бога. Кс. Ігнат пажадаў кожнаму заступніцтва св. Ігнацыя з Лаёлы і арханёла Міхала.



# Рэкалекцыі "Аазіс Жыцця"

**Хутка скончыліся восеньскія канікулы. Кожны, напэўна, стараўся іх правесці так, як хацелася. Каталіцкай моладзі выпаў шанец адпачываць разам з Богам падчас аазісу, які адбыўся ў докшыцкай парафіі Святой Тройцы ў кляштары братоў меншых капуцынаў і сясцёр-адаратарак Крыві Хрыста. Кожны ахвотны ва ўзросце ад 13 да 18 гадоў атрымаў магчымасць прыняць удзел у гэтых рэкалекцыях. Удзельнікаў было шмат – больш за 50 чалавек. Адказным за рэкалекцыі, як і заўсёды, быў а. Віталь Юркевіч. Дапамагалі яму браты і сёстры з парафіі Святой Тройцы, аніматары з Украіны, Расіі і, канешне, Беларусі.**

**Вераніка Далжук**, *15 гадоў*, **Докшыцы**

Тэма восеньскай аазы была "Хрысціянін у свеце". Шмат чаго незразумелага і небяспечнага чакае нас на жыццёвым шляху. Часамі маладому чалавеку цяжка зразумець, дзе той шлях, які вядзе да Бога. Праз канферэнцыі і супольныя малітвы аніматары дапамаглі атрымаць нам, моладзі, якая шукае Бога, вельмі карысныя веды.

Акрамя сур'ёзных канферэнцый і малітваў праслаўлення аазіс быў насычаны і вельмі вясёлымі вечарамі на розныя тэмы. Кульмінацыяй жа гэтых рэкалекцый стала вячэрняя малітва "Прыняцце Езуса сваім Панам", падчас якой была магчымасць адрачыся ад усяго таго, што аддаляе нас ад Езуса Хрыста і прызнаць Яго нашым Панам і Валадаром. Усе мы, удзельнікі, былі вельмі ўражаны малітвай, а гэта гаворыць толькі пра тое, што і праца аніматараў, і ўвогуле усе рэкалекцыі не прайшлі дарэмна! Бог дзейнічае!

Сваімі ўражаннямі падзяліліся ўдзельнікі аазіса.

**Марыйка Лубнеўская, 14 гадоў (Маладзечна):**

*– На аазісе я ўжо не першы раз, мне тут вельмі падабаецца. Таму я і хачу, каб ён не заканчваўся, а прадоўжыўся яшчэ хоць на пару дзён. У першую чаргу, хачу падзякаваць Богу за тое, што на малітве адрачэння Ён ачысціў маё сэрца. Таксама хочацца падзякаваць аніматарам з Украіны, нашым аніматарам, братам, сёстрам і ўвогуле ўсім удзельнікам.*

*На аазісе час ляціць зусім непрыкметна, бо ўсё праходзіць з карысцю. Тут і цудоўныя вечары, і малітвы праслаўлення, і праца ў групах, на якіх можна расказаць нешта пра сябе, падзяліцца ўражаннямі з канферэнцый, якія праводзяць аніматары. Каб лепш зразумець сэнс канферэнцый, мы запісваем іх сабе ў нашы дзённікі, але не проста запісваем і забываем. Я, напрыклад, з кожнай змагла вынесці для сябе нешта новае.*

*Для мяне аазіс не проста час, які я праводжу са сваімі сябрамі. Галоўнае, што гэты час я праводжу з Панам Богам. Я жадаю, каб кожны, хто пабываў тут, пазнаваў усё больш у сваім сэрцы Пана Бога, а тыя, што, магчыма, не вераць, – паверылі ў Яго і Ягоную любоў!*

**Павал Дзюба (Гродна):**

*– Оазис… Оазис – это моя вторая семья, без которой я не могу представить свою жизнь, в которой мне не надо одевать никаких масок, в которой я могу быть самим собой. Моим лучшим другом стал Иисус. Я люблю Его и не каплю этого не стесняюсь. Оазис меняет нас всех в лучшие стороны. На моих глазах человек из неверующего подростка превращался в человека, который готов пойти за Богом куда угодно, отдаться Ему. Эти реколлекции учат нас, подростков, быть как можно ближе к Богу, учат отказываться от пристрастия к наркотикам, алкоголю, порнографии и всему, что так захватывает молодёжь XXI века. Оазис учит нас быть взрослыми, взрослыми духовно через Молитвы Прославления. Как и в любой встрече молодёжи, у нас есть развлечения, много общения, танцы, конкурсы, мастер-классы, представление талантов. Наша община также устраивает пилигримки, в следующем году мы будем покорять дорогу из Молодечно в Будслав! Приглашаем вас быть с нами, быть с Богом!*

# Катэхеза вачыма мужчыны



**Абавязак навучання ў Каталіцкім Касцёле ў асноўным ляжыць на духавенстве: біскупах, святарах і дыяканах. Аднак часта ім у гэтым дапамагаюць катэхеты – настаўнікі ўрокаў рэлігіі. У гэтым нумары чытайце гутарку са свецкім выкладчыкам катэхезы з камайскай парафіі (Віцебская дыяцэзія) Віктарам Станіслававічам Даўжуком.**

**– Віктар Станіслававіч, мужчына-катэхет – гэта з'ява ўнікальная не толькі для Касцёла ў Беларусі. Адкуль у Вас жаданне быць настаўнікам урокаў рэлігіі?**

– Мушу сказаць, што на працягу ўсяго жыцця мяне вёў Бог, але я гэтага не разумеў аж да 37 гадоў. Вядома, бываў у касцёле, сёе-тое ведаў пра рэлігію, але не імкнуўся больш глыбока практыкаваць сваю веру. Рэлігійны светапогляд абмяжоўваўся да пашаны абразоў і знешніх рытуалаў у касцёле. Сітуацыя пагоршылася, калі ўжо стаў на свае ногі і пасля восьмага класа паехаў у Латвію, дзе вучыўся. А потым – служба ў войску. Для Бога зусім не засталося месца ў маім жыцці.

**– Калі я Вас правільна зразумеў, ідэя стаць выкладчыкам рэлігіі звязана непасрэдна з Вашым асабістым навяртаннем?**

– Так. Аднойчы наш пробашч, кс. Чэслаў Куцмеж, запрасіў мяне з жонкай наведаць "Рух хатняга Касцёла", які тады ствараўся ў парафіі. Мы адгукнуліся на гэтую прапанову. Памятаю, як пасля сустрэчы сем'яў у мяне паўстала моцнае жаданне не быць проста рытуалавыканаўцам у Касцёле. Бог клікаў мяне да нечага большага. І я стаў задаваць сабе пытанні: што я магу зрабіць для Касцёла яшчэ больш?

> **Віктар Даўжук: «Я называю свайго цяперашняга пробашча кс. Яцэка Хутмана археолагам»**

**– Можна сказаць, што разам з жаданнем памагаць Касцёлу ў Вас з'явілася жаданне пазнаваць Касцёл?**

– Так, сапраўды, у мяне заўсёды было шмат пытанняў, з якімі я прыставаў да кс. Паўла Кнурэка, нашага новага пробашча, і прасіў растлумачыць. Урэшце, ён мне так і сказаў жартам: "Віктар, ты мяне дастаў, едзь ты павучыся". І можаце сабе ўявіць: у саракагадовым узросце давялося сесці за парту.

**– З якога года вы выкладаеце катэхезу ў парафіі?**

– Я стаў выкладчыкам катэхезы амаль адразу, калі паступіў у катэхетычны каледж у Баранавічах. Гэта было ў 2002 годзе.

**– У якіх яшчэ парафіях, апрача Камаяў, Вы выкладаеце рэлігію?**

– Мяне таксама запрасіў кс. Мікалай Ліпскі праводзіць заняткі ў лучайскай парафіі. Езджу і туды. А наогул, дзяцей часта даводзіцца шукаць. Я называю свайго цяперашняга пробашча кс. Яцэка Хутмана археолагам. Бо ён, калі едзе ў нейкую вёску на пахаванне ці па іншых справах, часта знаходзіць нейкае дзіця, якое ходзіць у школу, але далёкае ад Касцёла. Тады ксёндз прыводзіць яго да мяне і я рыхтую да споведзі, тлумачу катэхізіс. Цікава, што са сваімі вучнямі я сустракаюся не толькі на ўроках рэлігіі. Я з'яўляюся адміністратарам камайскага фітнес-цэнтра, таму з многімі бачуся і там. Ёсць і такія, каторыя не ходзяць на катэхезу, але з маімі выхаваўчымі метадамі яны ўсё роўна сутыкаюцца. У цэнтры нельга брыдкасловіць, абсалютна непрымальны алкаголь, у памяшканні вісіць абраз Арханёла Міхала.

**– Думаю, нашым чытачам будзе цікава ведаць, якія цяжкасці чакаюць сёння выкладчыка на ўроках рэлігіі?**

– Як святар Вы мяне, пэўна, зразумееце. Цяжка быць прарокам у сябе на Бацькаўшчыне. Таму мне цяжка працаваць там, дзе нарадзіўся, дзе правёў шмат гадоў свайго амаль бязбожнага жыцця і раптам стаць выкладчыкам рэлігіі. Некаторыя людзі ніяк не хочуць гэтага прыняць. Цяжкасці бываюць таксама там, дзе гаворка ідзе пра сем'і, якія далёкія ад Касцёла. Нашмат лягчэй працаваць з дзецьмі, бацькі якіх самі даюць прыклад веры. Я, быць можа, закрану іншую тэму, але хацеў бы зазначыць, што сёння вельмі важная праца з бацькамі, асабліва маладымі. Пачынаючы ад шлюбу, неабходна ў Касцёле арганізоўваць для іх сустрэчы і катэхезы.

**– А што Вы можаце сказаць пра дыдактычныя матэрыялы?**

– Тут я не маю ніякіх нараканняў. Яшчэ ў свой час назбіраў багата рознай літаратуры, таму мая бібліятэка добра забяспечаная кнігамі. Адзінае – пакуль што няма магчымасці ў парафіі выкарыстоўваць мультымедыйную апаратуру, паказваць фільмы і г. д… Гэтага пакуль не хапае. Ну, і калі казаць пра працу катэхетаў у шырэйшым маштабе, лічу, што вельмі не хапае нам дыяцэзіяльных сустрэч катэхетаў. Гэта бясцэнны вопыт, калі сустракаешся са сваімі калегамі і можаш абмеркаваць з імі сваю працу. Я перакананы, што ў дыяцэзіі, а можа, і ўва ўсёй краіне трэба арганізоўваць рэкалекцыі для катэхетаў.

> **У дыяцэзіі, а можа, і ўва ўсёй краіне трэба арганізоўваць рэкалекцыі для катэхетаў**

**– Што Вы скажаце пра маладое пакаленне беларусаў?**

– Лёгка заўважыць негатыўны ўплыў камп'ютарызацыі. Тут важна ведаць і ўзроставую спецыфіку жыцця. Напрыклад, бацька, які працуе ў калгасе, у перыяд пасяўной падымаецца ў чатыры-пяць гадзін раніцы. Дзеці яшчэ спяць. Прыходзіць дамоў у дванаццаць ночы – дзеці таксама спяць. Маці працуе ў кароўніку. Устае ў пяць і таксама працуе дапазна. Што робяць бацькі, каб паказаць сваю ўвагу да дзяцей? Купляюць ім камп'ютары, планшэты і г.д… А сапраўднага выхавання няма. Нядаўні яскравы выпадак. Гутару з адным мужчынам, бацькам майго вучня. Ён пытаецца, як вучыцца сын? Я адказваю: "Ён вельмі здольны, так прыгожа малюе!" На што бацька пытаецца: "А што, ён маляваць умее?" Вось рэальная сітуацыя. Бацька не ведае пра таленты сына, таму што яму няма калі пра гэта даведацца.

**– Віктар Станіслававіч, дзякую Вам за гутарку і жадаю няспыннага духоўнага росту і поспехаў у няпростай і цікавай працы катэхета.**

– Дзякуй.

***Гутарыў кс. Віктар Місевіч***



Браслаў

# Карытас дапамог дзецям



■ **Антаніна Палінская,** *caritas-vitebsk.by*

**У верасні 2013 года стартаваў сумесны праект "Захаваем дзяцей для жыцця", арганізаваны «Caritas» Віцебскай дыяцэзіі і УАЗ «Браслаўскі абласны падлеткавы туберкулёзны рэабілітацыйны цэнтр» пры фінансавай падтрымцы «Renovabis».**

Дадзены праект ствараўся для паляпшэння ўмоваў прабывання падлеткаў у рэабілітацыйным цэнтры. Для гэтай мэты «Caritas» Віцебскай дыяцэзіі набыў і перадаў рэабілітацыйнаму цэнтру мэблю для абсталявання дзвюх палат у лячэбным корпусе, а таксама спартыўны інвентар для заняткаў лячэбнай фізкультурай, якая з'яўляецца адным з найважнейшых кампанентаў у працэсе рэабілітацыі.

Падлеткі з вялікім жаданнем і ахвотаю прымалі ўдзел ва ўстаноўцы абсталявання. З набыццём трэнажораў распрацаваныя новыя методыкі для лячэбнай фізкультуры. Асабліва падабаюцца падлеткам заняткі з гімнастычнымі мячамі – дзеці самастойна прыдумваюць новыя практыкаванні. Перыядычна праводзяцца спаборніцтвы па настольным тэнісе, валейболе, баскетболе, футболе, разнастайныя эстафеты з мячамі.

Дзякуючы набытаму інвентару падлеткі актыўна далучаюцца да заняткаў фізкультурай і спортам, фарміруюць у сабе навыкі здаровага ладу жыцця, забываюцца на дрэнныя звычкі, што асабліва важна для падлеткаў з сацыяльна неdабранадзейных сем'яў.

**Большасць з нас, сустракаючы незнаёмага чалавека, звяртае ўвагу на знешнасць. А ці правільна гэта – глядзець найперш на адзенне, абутак, аксесуары? Над гэтым пытаннем у сённяшнім нумары “Каталіцкага Весніка” разважаюць нашы чытачы.**

*Падрыхтавала Ірына Грэйць*

# Сустракаюць па адзенні?



**Кл. Сяргей Крывы:**
– Людзі часта сустракаюць па адзенні. Звычайна пры знаёмстве першае ўражанне чалавек атрымлівае, бачачы знешні выгляд іншага чалавека. Гледзячы на адзенне і іншыя вонкавыя фактары, складваецца меркаванне пра гэту асобу. Аднак вельмі часта ўнутраны свет і знешнасць бываюць надта рознымі! І, ведаючы гэта, я сам стараюся распазнаць чалавека, перш чым казаць пра яго штосьці. Часам сустракаюцца людзі, якія хаваюць за прыгожай вопраткай бескультурную натуру і наадварот: за неахайнай і беднай вопраткай можа знаходзіцца чыстая, светлая і адчувальная душа. Часам сёння сустракаю на вуліцы маладых людзей, якія апрануты проста шыкоўна, але калі загавораць, то амаль праз кожнае слова чуваць нецэнзурныя выразы. Ну і аб чым тут размаўляць? А бывае, прыедзеш у вёску і сустрэнеш на вуліцы дзядулю мясцовага. Апрануты па-вясковаму, неахайна. Але запытаеш у яго што-небудзь – і пачуеш ветлівы і поўны спагадлівасці адказ. Я сам часта сутыкаўся з такімі сітуацыямі. Таму я лічу, што час ужо пачынаць адразу сустракаць па розуме.

**Індрэ Ашмантайце:**
– На жаль або на шчасце, у нашым сучасным беларускім грамадстве чалавека ў першую хвіліну знаёмства ўспрымаюць па вонкавым выглядзе. Вельмі складана зразумець, хто ёсць хто. Кожны раз, калі я абуваю свае ярка-салатавыя кеды, я думаю, ці не занадта гэта для мяне, а потым апранаю куртку прыкладна такога ж колеру. Але я раблю выснову, што маё адзенне адлюстроўвае мой унутраны свет і крыху дзіцячую сутнасць. І не заўсёды мой знешні выгляд ідзе на маю карысць, таму даводзіцца часта падстройвацца пад агульнапрынятыя правілы. Нягледзячы на мой вольны стыль у адзенні, я таксама, як і многія, успрымаю людзей па знешнасці, што незаўсёды правільна. Напрыклад, бачачы маладога хлопца з намаляванымі чорнымі пазногцямі, я насцярожваюся. У мяне няма вялікага жадання загаварыць з такім чалавекам. Асабліва, калі дадаць да бруднага адзення растрапаныя валасы. Але, магчыма, я памыляюся. Ёсць таксама і іншы прыклад, калі добры і светлы чалавек такі ж, як яго вобраз. Кожны раз, калі я размаўляю з гэтай дзяўчынай, я здзіўляюся, як гарманіруюць яе знешнасць і багаты духоўны свет. І, канешне ж, былі выпадакі, калі хацелася заплюшчыць вочы і ўбачыць тое, што чуеш, і наадварот. Таму ўсё ж не мяркуйце толькі па адзенні.



**Уладзіслаў Данброў:**
– Я цалкам згаджаюся з выказваннем, што сустракаюць па адзенні. Калі мы бачым чалавека, не пачаўшы з ім размаўляць, то атрымліваем нейкую колькасць інфармацыі шляхам невербальных зносін. Выразы кшталту “сустракаюць па адзенні” асабліва часта выкарыстоўваюцца ў апошні час. Чалавек у прыемным і чыстым адзенні выклікае давер, напрыклад, пры ўладкаванні на працу (працадаўца заўсёды клапоціцца пра рэпутацыю фірмы і сваіх супрацоўнікаў). Калі добра апранутаму чалавеку стане дрэнна, яму заўсёды дапамогуць, а вось ці дапамагчы людзям без пэўнага месца жыхарства – задумаюцца. Але можна сказаць і пра тое, што знешні выгляд і ўнутраны свет чалавека не заўсёды аднолькавыя. Апошнім часам адзенне становіцца глабальным стэрэатыпам, меркай чалавечых магчымасцяў і дасягненняў. Пазнаючы чалавека, часта хапае “шаблоннай” інфармацыі. Паглядзі вакол… Магчыма, каля цябе знаходзяцца не такія людзі, якімі ты іх бачыш. Магчыма, патрэбна лепш прыглядзецца?



**Алег Цітовіч:**
– Калі мы сустракаем чалавека, у першую чаргу, бачым перад сабой пэўны вобраз і вонкавы выгляд. Ужо перакінуўшыся некалькімі словамі, угледзешся ў характар, паводзіны. Ведаю такія прыклады: людзі катэгарычна супраць адно аднаго толькі праз тое, што ім не падабаецца іх знешні выгляд. Думаю, гэта вельмі дзіўныя людзі. Калі ж пачынаеш мець пэўныя зносіны з чалавекам, пачынаеш бачыць яго душу. Калі яна добрая і чыстая, то прычым тут знешнасць?



**Дзяніс Бобін:**
– Я шмат разоў бачыў, што людзі сустракаюць адно аднаго па адзенні. Пра адных кажуць, што ў іх беднае адзенне, таму не варта з імі размаўляць; пра іншых – што тыя багатыя, таму яны вельмі ганарыстыя; калі хто апране шырокія штаны і майку, то яго робяць чалавекам, які кажа дрэнныя словы. Асабіста я не згодны з выказваннем, што сустракаць людзей трэба па адзенні. Ёсць шмат асобаў, якія маюць цудоўнае сэрца і якія першыя прыйдуць на дапамогу ў цяжкую хвіліну, але іх адзенне не адпавядае сённяшняй модзе, за якой імкнецца так шмат людзей. Вось я ведаю аднаго чалавека, ён мой знаёмы, які любіць насіць шырокія штаны і байкі. Людзі, якія бачаць яго першы раз, кажуць, што ён ганарысты і нявыхаваны хлопец, а думкі пра тое, што ён добры, нават не ўзнікае. Я асабіста ведаю яго і яго сям'ю. Гэта вельмі культурныя і набожныя людзі. Вось не так даўно ехаў з ім у цягніку дахаты. На адным з прыпынкаў зайшла маладая дзяўчына. Ёй не было месца сесці. У вагоне было больш за палову маладых хлапцоў, але ніхто нават не варухнуўся, каб саступіць месца гэтай дзяўчыне. Тады мой знаёмы прайшоў праз паўвагона, у сваіх шырокіх штанах і байцы, і пасадзіў гэтую дзяўчыну на сваё месца. Я бачыў твары людзей, якія назіралі за гэтымі падзеямі, яны былі здзіўленыя такім учынкам маладога чалавека. Шчыра кажучы, балюча глядзець, што наша культура замыкаецца толькі ў тым, хто апране лепшую сукенку або касцюм, а сапраўдныя чалавечыя і хрысціянскія каштоўнасці знаходзяцца на далёкім плане.



**Віншуем!**
**Шаноўны айцец Андрэй Жылевіч!**

*З нагоды імянін дасылаем Вам букет найлепшых пажаданняў, спалучаных з малітвай. Жадаем Божага благаслаўлення, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і анёла-ахоўніка, а таксама дароў Духа Святога, сілы і здароўя ў рэалізацыі Божых планаў. Няхай у Вас заўсёды будуць толькі зычлівыя і добрыя людзі на святарскім шляху. Дзякуем Богу за Вас, а Вашым бацькам – за сына-святара!!!*

*Сям'я Гайдзіс, Геранёны (Іўеўскі р-н, Гродзенская вобл.)*

**Шаноўны ксёндз Янвіслаў Ганцарэк!**

*Прыміце нашы самыя цёплыя віншаванні ў дзень Вашага сямідзесяцігоддзя! Няхай жыццёвы вопыт і мудрасць дапамогуць дасягнуць Вам новых вышынь! Няхай апраўдаюцца Вашыя патаемныя жаданні і памкненні, хай захаваецца ўсё добрае, што ёсць у Вашым жыцці, прымнажаючы імгненні радасці, любові і аптымізму. Жадаем, каб поспехі і натхненне былі вернымі спадарожнікамі ва ўсіх Вашых пачынаннях, а таксама зычым настойлівасці і цярпення ў вырашэнні штодзённых задач! Жадаем моцнага здароўя і апекі Маці Божай. Няхай Найсвяцейшае Сэрца Езуса дапамагае Вам на святарскім шляху!*

*Дзякуем за працу ў нашай парафіі, за шчырую малітву і прапаведванне Божага слова.*

*Вернікі гарадоцкай парафіі Наведзінаў НПМ*

**Пахвалёны Езус Хрыстус!**

*Год таму да нас у парафію св. Яна Хрысціцеля прыехаў а. Андрэй Зуй. Мы ўсе вельмі жадаем, каб ён заставаўся з намі як мага даўжэй. З першых дзён яго працы мы ўбачылі руплівага, чулага і вельмі шчырага ў малітве пастыра. Айцец Андрэй – малады, энергічны святар. За адзін год працы яго намаганнямі зроблена вельмі шмат для парафіі і для ўсіх нас.*

*3 лістапада ў а. Андрэя дзень нараджэння, а 30 лістапада – імяніны. Нашаму шаноўнаму святару выказваем сардэчныя пажаданні моцнага здароўя, Божага благаслаўлення і апекі Маці Божай! Жадаем, каб ён прыцягваў да сябе і да Касцёла як мага больш людскіх сэрцаў, каб з яго дапамогай людзі вучыліся быць спагадлівымі і міласэрнымі!*

*З павагай і ўдзячнасцю ад касцельнага камітэта і вернікаў парафіі св. Яна Хрысціцеля ў в. Валкалата*

**Віншуем!**

*Сардэчна віншуем а. Андрэя Зуя са святам імянінаў. Жадаем яму Божых ласкаў, здароўя, душэўнага супакою, радасці і задавальнення ад паслугі, якую ён выконвае. А таксама жадаем добрых і зычлівых людзей побач. Айцец Андрэй, няхай Ваш святы заступнік апостал Андрэй спадарожнічае Вам на шляху да святасці і дапамагае пераадольваць усе цяжкасці!*

*Трэці Ордэн св. Францішка, г.п. Ліпнішкі (Гродзенская вобл.)*

**Адказы на пытанні віктарыны са стар. 8**
1. В (Быц 19, 26); 2. А (Быц 9); 3. А (Быц 8, 6); 4. В (Быц 5, 22-24); 5. Г (Зых 24); 6. Б (Быц 5, 27); 7. В ; 8. Г (Ян 21, 11); 9. Б (Мц 16, 23); 10. В (Дз 16, 14)

# Зачыненыя дзверы веры



**Апошні месяц Папа Францішак у сваіх прамовах часта закранаў тэму практычнага аспекту быцця хрысціяніна. Свет, дзе жыве болей за два мільярды хрысціянаў, з якіх больш за палову – каталікі, верагодна, павінен быў бы паволі пераўтварацца ў Божае Валадарства любові і згоды. Але рэальнасць цалкам іншая. Ні для кога не сакрэт, што мільярды хрысціянаў – лічба фармальная, паколькі фармальным з'яўляецца хрысціянства гэтых мільярдаў.**

**■ а. Зміцер Чарнель, рэдэмптарыст**

Быць хрысціянінам – гэта як? Мець продкаў хрысціянаў? Выконваць хрысціянскія звычаі і абрады? Мець хрысціянскі светапогляд? Чаго не хапае хрысціянскаму свету, каб свет станавіўся сапраўды хрысціянскім?

## Жыць верай пасур'ёзнаму

У адной са сваіх прамоваў Папа Францішак нагадаў, што нельга быць "хрысціянамі паўдарогі". У жыцці вернікаў заўсёды ёсць перыяд "перад і пасля" сустрэчы з Езусам. Хрыстос робіць з нас "другое стварэнне", якое мы павінны развіваць спосабам свайго існавання. "Калі раней наша жыццё, цела, душа, звычкі знаходзіліся на шляху граху, беззаконня, пасля новага стварэння мы павінны намагацца ісці шляхам справядлівасці і асвячэння. Выкарыстоўвайце гэта слова – святасць!" – заклікаў Папа.

Сёння многія вызнаюць сваю веру ў Хрыста, але жывуць, як хочуць. Паводле Папы, шлях да святасці ляжыць праз прызнанне ўласных грахоў і зварот да Езуса з просьбай пазбавіцца ад іх. "Калі прымаем веру, а затым не жывём ёй – з'яўляемся бяспамятнымі хрысціянамі", – кажа Францішак. Калі хрысціяне не ўсведамляюць пачатку новага жыцця пасля хросту, то толькі называюцца хрысціянамі, і, жывучы, як язычнікі, з'яўляюцца "хрысціянамі паўдарогі", якія не ўспрымаюць веру сур'ёзна і не перажылі сапраўднага навяртання.

## Споведзь – сведчанне нашай волі

Разам з тым нават цвёрдае рашэнне быць верным Хрысту ў кожным сваім учынку і думцы не можа быць рэалізавана намі дасканала. Бо нават маючы гарачае жаданне выканаць гэта, з-за сваёй слабасці людзі ўсё ж раней ці пазней, свядома ці несвядома ўчыняюць тое, што мы называем грахом, тое, што разыходзіцца з Божай воляй. І ў гэтым выпадку абавязак хрысціяніна – шчыра ў пакоры звярнуцца да Госпада, вызнаўшы перад ім сваю правіну, папрасіць ласкі перамагчы свой грэх і болей яго не паўтараць. Жыццё хрысціяніна цесным чынам павязана з таямніцай Божага прабачэння і пастаяннага навяртання. Менавіта таму Святы Айцец заклікае: "Майце адвагу перад спаведнікам назваць грахі іх імёнамі, не хаваючы".

***Папа Францішак: "У ідэалогіях няма Езуса"***

Спавядацца, паводле Папы, азначае ісці на сустрэчу з любоўю Езуса, з сардэчнай шчырасцю і дзіцячай прастатой, не адкідаючы, але наадварот – прымаючы "ласку сораму", якая папярэднічае прабачэнню Божаму. Францішак адзначыў, што для многіх дарослых людзей споведзь перад святаром уяўляе невыноснае намаганне, якое часта правакуе ўхіленне ад сакраманту ці пераменяе яго з моманту праўды ў простае выкананне абавязку. "Некаторыя кажуць: "Я спавядаюся перад Богам". Але гэта проста, як паспавядацца праз e-mail: Бог там, далёка, я кажу Яму рэчы і няма кантакту твар у твар, вочы ў вочы. Іншыя кажуць: "Я пайду паспавядацца", – але спавядаюцца з рэчаў абстрактных, у паветра, якія не маюць ніякай канкрэтыкі – таго ці іншага я не рабіў. Спавядацца з нашых грахоў – не значыць ісці на сеанс да псіхіятра ці ў залу катаванняў: гэта значыць, сказаць Пану: "Пане – я грэшнік", – але сказаць гэта праз брата, сказаць гэта канкрэтна: "Я грэшнік таму, таму і таму", – заклікаў Папа.

***Спавядацца з нашых грахоў – не значыць ісці на сеанс да псіхіятра ці ў залу катаванняў***

Споведзь – гэта свядомае сведчанне таго, што нашая воля імкнецца выконваць волю Божую, што нашая сутнасць жадае адкінуць тое, што раздзяляе нас з Богам.

## Малітва – гэта аснова

Святасць, да якой пакліканы кожны чалавек паводле слоў апостала: "Воляй Божай ёсць сьвятасць ваша" (1 Тэс. 4, 3), – немагчымая без цеснай сувязі з Богам. У споведзі мы вызнаём тое, што супярэчыць святасці, аднаўляем нашую еднасць з Панам і просім у Яго ласкі і сілы заўсёды выконваць Яго волю. Гэтая еднасць патрэбная для таго, каб стаць святым, немагчымая без малітвы. Менавіта малітва з'яўляецца тым, што ў першую чаргу дапамагае нам станавіцца сапраўднымі хрысціянамі. Калі хрысціянін перастае маліцца, гэта азначае, што ён страціў веру і стаў вучнем рэлігійнай ідэалогіі, маралізатарства. Пра небяспеку гэтага сказаў Папа Францішак.

"У ідэалогіях няма Езуса, Яго чуласці, любові, лагоднасці. Ідэалогіі заўсёды ёсць жорсткія. І калі хрысціянін становіцца вучнем ідэалогіі, гэта значыць, ён страціў веру: ён ужо не з'яўляецца вучнем Езуса, ён становіцца вучнем такога спосабу мыслення", – сказаў Папа.

Паводле Святога Айца, калі вера становіцца ідэалогіяй, яна палохае людзей, адштурхоўвае іх і аддаляе ад Касцёла. "Быць "ідэалагізаванымі хрысціянамі" – гэта цяжкая хвароба", – сказаў Рымскі Архірэй. Святы Айцец падкрэсліў, што прычына такой перамены хрысціяніна перш за ўсё ў адсутнасці малітвы. "Калі няма малітвы, ты заўсёды зачыняеш дзверы", – сказаў Папа Францішак. Ён нагадаў, што ключом, які адчыняе дзверы веры, ёсць малітва.

Святы Айцец патлумачыў, што, калі чалавек не моліцца, яго сведчанне не становіцца высакамерным. Ён становіцца чалавекам ганарыстым, самаўпэўненым, які шукае выключна ўласнага ўзвышэння.

Кожнаму зразумела, што бяда чалавецтва ў тым, што свет адвярнуўся ад Бога і выканання Яго волі. І няма нікога іншага, хто мог бы выправіць гэтае становішча, акрамя вучняў Езуса Хрыста – хрысціянаў. Ад кожнага асабіста залежыць, якім будзе хрысціянства хрысціянаў – праўдзівым ці ўмоўным. Пачнём з сябе, не спынімся на паўдарогі, але цалкам аддамо сваё жыццё Богу і даверымся Яго святой волі!

---

*Працяг. Пачатак на стар.1*

Якасны аспект – гэта тое, што менавіта бачыць дзіця ці падлетак у фільмах (мультфільмах), перадачах, на інтэрнэт-сайтах, у камп'ютарных гульнях і г.д. У першую чаргу, тут паўстаюць праблемы прапаганды гвалту, разбэшчанасці, разбурэння каштоўнасцяў. Можна казаць пра нівеляванне ролі сям'і і іншыя шкодныя ўплывы.

У такой сітуацыі перад бацькамі паўстае няпростае пытанне: як абараніць сваё дзіця перад негатыўным уплывам тэлебачання ці камп'ютара?

Насамрэч, пытанне амаль тупіковае. Нават калі вы наважыцеся пазбавіцца ад тэлевізара і паставіць пароль на камп'ютар, ваша дзіця зможа паглядзець тыя самыя фільмы ці сайты і пагуляць у тыя самыя гульні ў сяброў ці суседзяў.

**Тэлевізар і камп'ютар могуць стаць сапраўднымі сродкамі выхавання, а не альтэрнатывай яму**

Паспрабуем, аднак, зірнуць на сітуацыю пад іншым вуглом.

Мы часта кажам, што тэлевізар (камп'ютар) сталіся ў сучасным свеце сродкамі выхавання. Аднак ці гэта сапраўды так? Насамрэч, сітуацыя складваецца такім чынам, што сучасныя прылады становяцца не сродкам, а альтэрнатывай выхаванню. І альтэрнатывай адмоўнай. Калі і навошта бацькі дазваляюць сваім дзецям (маленькім альбо падлеткам) увесь дзень глядзець тэлевізар альбо "завісаць" у камп'ютары? Тады, калі самім бацькам не хапае часу, магчымасцяў, сілаў ці жадання праводзіць гэты час з дзецьмі. Відавочна, што прасцей пасадзіць малое глядзець мульцікі, чым соты раз чытаць з ім казку пра "Курачку Рабу". І прасцей дазволіць падлетку гуляць ці камунікаваць у сеціве, чым разбірацца ў чарговых хітраспляценнях кшталту "Вася любіць Маню, а Маня любіць Пецю".

Больш за тое, бацькам вельмі часта трэба прыкладаць вялікія намаганні, каб застацца цікавымі і аўтарытэтнымі суразмоўцамі для сваіх дзяцей. Калі дзіцяці тры гадкі, гэта яшчэ не так актуальна. А вось бацькам падлеткаў часам складана нават зразумець, аб чым разважае сын ці дачка. Інтарэсы пакаленняў разыходзяцца ўсё далей, і прасцей пусціць усё "на самацёк", чым спрабаваць пераадолець гэтую адлегласць.

### Што ж можна прапанаваць бацькам у адносінах да сучаснай медыйнай тэхнікі?

Перш за ўсё я б заклікала быць рэалістамі. Сапраўды, выхаванне дзяцей з'яўляецца вельмі цяжкай і складай справай, якая патрабуе шмат сілы і энергіі. Бацькі такса ма жывыя людзі, і таму няма нічога дрэннага ў тым, што ім патрэбны час "для сябе": каб аднавіць сілы, адпачнуць ці зрабіць нейкія справы па гаспадарцы, якія не звязаны непасрэдна з дзіцём, – прыбраць, прыгатаваць ежу і г.д. Той час, які дзіця праводзіць, гледзячы мульцікі, можа быць выкарыстаны менавіта такім чынам.

### Што ж рабіць са шкодным уплывам мас-медыя на дзяцей і падлеткаў?

Я б прапанавала наступны крок: тэлевізар і камп'ютар могуць стаць сапраўднымі сродкамі выхавання, а не альтэрнатывай яму.

### Што гэта значыць?

Перш за ўсё трэба звярнуць увагу на тыя два аспекты ўздзеяння сучасных прыладаў, пра якія мы казалі раней (колькасны і якасны), і ўзяць іх пад свой кантроль.

### Колькасны падыход

Існуе вельмі шмат парадаў псіхолагаў і лекараў адносна таго, колькі часу дзеці рознага ўзросту могуць праводзіць перад тэлевізарам і камп'ютарам без шкоды для сябе. Гэтыя нормы бацькам надзвычай важна ведаць і вытрымліваць, гэтаксама як і санітарна-гігіенічныя правілы наконт адлегласці экрана ад вачэй дзіцяці, асвятлення пакоя і г.д.

### Якасны аспект

1 У абавязковым парадку бацькі павінны дакладна ведаць, што ў канкрэтны момант глядзіць іх дзіця ці ў якую гульню яно гуляе. Таму першае правіла ўсіх бацькоў: перш чым паказаць фільм ці нават мульцік дзіцяці – прагледзіце яго самі! Таксама не дазваляйце дзецям гуляць у камп'ютарныя гульні, у якія вы самі не гулялі (калі вы наогул не гуляеце ў іх, то не прапаноўвайце і дзецям).

**Перш чым паказаць фільм ці нават мульцік дзіцяці – прагледзіце яго самі!**

2. Знайдзіце час, каб абмеркаваць з дзіцём прагледжанае. Нават з самымі маленькімі дзеткамі можна шукаць адказы на пытанні: хто з персанажаў табе спадабаўся, хто не, хто быў добрым, а хто дрэнным? З больш дарослымі дзецьмі і падлеткамі можна разважаць, чаму, на тваю думку, герой зрабіў так, а не інакш? Як бы ты сябе паводзіў на яго месцы? Ці можна было зрабіць па-іншаму?

Такія дыскусіі будуць яшчэ больш цікавымі, калі на прагляд фільма ці мульціка зможа сабрацца ўся сям'я. Тады гэта можа стаць тым часам, які і бацькі і дзеці правядуць разам, змогуць абмеркаваць нешта цікавае, больш даведацца пра тое, што важна для іншых членаў сям'і. Гэта зробіць сучасную тэхніку карысным памочнікам у выхаванні вашых дзяцей.

**Наталля Станкевіч, псіхолаг**

Пытанне святару

# Святар не адпусціў грахі. Чаму?



*“Я сустракаюся з мужчынам працяглы час. Паміж намі існуюць вельмі блізкія інтымныя адносіны. Калі я расказала пра гэта на споведзі святару, ён не адпусціў мне грахі. Я не разумею: чаму? Я не жыву з гэтым чалавекам, а толькі сустракаюся. Святар падчас споведзі хацеў пачуць ад мяне абяцанне, што я кіну свайго мужчыну або з ім павянчаюся. Але я не хачу з ім вянчацца і кідаць не хачу”.*

*Алена*

**На пытанне адказвае кс. Валерый Марціноўскі, Гарадок:**

- На споведзі святар можа не адпусціць грахі чалавеку, які не мае адпаведнай для гэтага падрыхтоўкі.

У чым такая падрыхтоўка заключаецца? Уводзіны ў “Парадак пакаяння” у п. 6 кажуць: “Хрысціянін, які пасля граху пад уплывам Духа Святога прыступае да сакраманту пакаяння, павінен перадусім цалкам навярнуцца да Бога. Гэтае ўнутранае навяртанне сэрца, якое заключае ў сабе жаль за грахі і пастанову новага жыцця, выражаецца праз вызнаванне грахоў перад абліччам Касцёла, праз выпраўленне ўчыненага зла і праз перамену жыцця”. У выпадку, калі пенітэнт не хоча, прынамсі, на дадзены момант адмовіцца ад граху, то гэта знак для святара, што асоба, якая спавядаецца, не мае пакаяння. А калі няма жалю за грахі, то няма і Божага прабачэння.

Справа сяброўства хлопца і дзяўчыны прыгожая, калі гэтыя адносіны спрыяюць узаемнаму і асабістаму ўзбагачэнню. Аднак інтымныя адносіны “зарэзерваваныя” толькі для сужэнцаў. Таму калі ў сяброўстве хлопца і дзяўчыны існуюць гэтыя інтымныя адносіны, то такім сябрам трэба перагледзець свае паводзіны: або ісці да святара на падрыхтоўку да шлюбу, або не пераходзіць мяжы інтыму.

# Першы марыянскі чэмпіянат па футболе



**У Жодзіне 9 лістапада ў парафіі Маці Божай Фацімскай адбылася сустрэча міністрантаў з марыянскіх парафій і першы марыянскі чэмпіянат па футболе.**

Успатканні прынялі ўдзел міністранты з Жодзіна, Барысава і Мінска. У якасці ганаровых гасцей прыехала каманда з Друі.

На пачатку хлопцы паглядзелі прэзентацыю па тэме “Хто такі міністрант?”, а пасля ўсе разам удзельнічалі ў Эўхарыстыі, якую цэлебраваў а. Андрэй Сідаровіч MIC.

Пасля абеда распачаліся спаборніцтвы па мініфутболе. Турнір праходзіў у двух катэгорыях: старэйшыя і малодшыя. Пасля доўгай і напружанай барацьбы вызначыліся пераможцы.

Сярод малодшых першае месца занялі міністранты з парафіі Беззаганнага Зачацця НМП з Мінска, другое месца – у каманды з Жодзіна, а трэцяе – у міністрантаў з Барысава.

У катэгорыі старэйшых змагаліся чатыры каманды. Вынік наступны: 1-е месца – Барысаў, 2-е – Мінск, 3-е – Жодзіна і 4-е – Друя.

Трэба адзначыць, што хлопцы не толькі паказалі добрую гульню ў футбол, але і пакінулі пасля сябе добрае ўражанне. Прадстаўнікі жодзінскай школы № 8, якая прадаставіла нам спартыўную залу, запрасілі міністрантаў яшчэ раз прыехаць сюды, на наступныя турніры.

**Брат Канстанцін Анашка MIC**

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**1 снежня 2013 г.** **Мц 24, 37-44**

Чалавек хоча кантраляваць свае справы. А Пан Бог і Яго планы пераратаюць наша разуменне. Таму ў Божых справах мы павінны давяраць Богу, выказваць Яму пакору і паслухмянасць. Мы павінны памятаць, што Ён – Вялікі Бог, Мудрасць і Таямніца, Якая перарастае нас. Трэба з увагай прымаць тое, што Ён нам аб’яўляе і што гаворыць. Калі размова ідзе пра канец свету або пра дзень нашай смерці, то трэба пачуць Яго заклік да чування і пастаяннай гатоўнасці. Трэба чуваць, каб любіць Яго і бліжняга. І гэта любоў падрыхтуе нас да спаткання з Ім.

*– Ці не гляджу на Божыя справы толькі па-чалавечы?*

*– Ці не хачу сам заняць месца Бога?*

*– Можа, хачу маніпуляваць Богам або кантраляваць Яго?*

*– Ці давяраю Пану?*

*– Ці не разлічваю занадта на свае сілы?*

*– Ці ўсведамляю, што ва ўсім добрым Бог займае першае месца, а я толькі супрацоўнічаю з Ім?*

*– Як выглядае мая любоў сёння?*

*– Як я люблю Пана Бога і ў чым гэта праяўляецца?*

*– Як я люблю бліжняга і ў чым гэта праяўляецца?*

*– Ці пытаюся ў Пана Бога пра Яго волю?*

*– Ці рыхтуюся, выконваючы Божую волю, да апошняга дня?*

**8 снежня 2013 г.** **Мц 3, 1-12**

Езус прыбліжаецца. Гэта Месія, Якога, нібы герольд, абвяшчае Ян Хрысціцель. Прыйсце Езуса – гэта кульмінацыйны момант у жыцці свету і ў жыцці кожнага з нас. Трэба адкінуць тое, што састарэла і шкодна і падрыхтаваць Яму дарогу да нашых сэрцаў. Ён прабачыць, ачысціць і ўдзеліць нам Святога Духа. Зробіць нас новымі людзьмі. Ён нас асвеціць і з’яднае з сабой.

*– Ці Езус – найважнейшы ў маім жыцці?*

*– Што мне перашкаджае, каб Бог прыйшоў у маё жыццё?*

*– Як гэтыя перашкоды адолець?*

*– Ці іду да Бога са сваімі слабасцямі?*

*– Ці прашу, каб Бог вызваліў мяне ад іх?*

*– Ці дазваляю Яму ачышчаць мае недасканаласці?*

*– Ці згаджаюся, каб Ён зрабіў маё сэрца і маю любоў лепшымі?*

*– Ці Адвэнт, рэкалекцыі, споведзь і свята Божага Нараджэння – гэта час, калі аднаўляю сваю сувязь з Хрыстом?*

*– А можа, чарговы раз збіраюся пражыць яго (гэты час) традыцыйна?*

*– Ці прашу і ці спадзяюся ад Бога Божага Духа ў сваё сэрца?*

**15 снежня 2013 г.** **Мц 11, 2-11**

Каб прыняць Езуса-Збаўцу, нам трэба адкрыць сваё сэрца і свой розум. Ян, як і ўвесь народ, меў праблемы і цяжкасці ў разуменні місіі Езуса. Езус тлумачыць, што яго дзеянне – гэта выкананне прароцтваў пра Месію. Таксама і тых, дзе гаворыцца пра Яго прыніжэнні і цярпенні. Езус гаворыць пра асаблівую ролю Яна ў гісторыі збаўлення. Гэта ён (Ян) рыхтуе дарогу ў сэрцах выбранага народа для прыняцця Месіі. Найменшы з удзельнікаў Божага Валадарства ўдзельнічае ў новым звышпрыродным парадку спраў. Таму, ідучы за Езусам, нельга абмяжоўвацца сваім разуменнем рэчаіснасці. Але з даверам прасіць у Яго аб’яўленне праўды пра тое, у чым удзельнічаем. Гэта Ён разумее ўсю глыбіню здарэнняў і спраў. Разумее цалкам і адразу. Нам трэба, трымаючыся Яго рукі, дарастаць да разумення Божых спраў. Нават тых, якія даступныя нас самім.

*– Ці мае сэрца, розум і пачуцці адкрыты на Божае дзеянне, Яго слова і мудрасць?*

*– А можа, маю свае перакананні, якіх не збіраюся змяняць?*

*– Мае погляды на жыццё абапіраюцца на Божую мудрасць ці гэта толькі плён майго вопыту?*

*– Якія справы ў жыцці разумею па-свойму, а потым Бог навучыў бачыць іх глыбей?*

*– Ці ўсведамляю, што мае веды і разуменне скажоныя чалавечай недасканаласцю?*

*– Ці раблю намаганні, каб бачыць глыбей?*

*– Ці бачу Божае дзеянне і Божую мудрасць?*

*– Ці разважаю пра Божыя справы і ці шукаю ў Бога тлумачэнняў?*

*– Ці разумею, што бачанне Божага свету па-боску – гэта працэс, якому вучыць мяне сам Бог?*

*– Ці паслухмяны Яму?*

*– А можа, занядбоўваю Яго навуку, Яго словы?*

*– Ці прагну жыць паўнатой багацця Божага Валадарства?*

*– А можа, задавальняюся павярхоўным хрысціянствам?*

**22 снежня 2013 г.** **Мц 1, 18-24**

Марыя зачала ад Святога Духа. Юзэф, заручаны з ёй, атрымаў тлумачэнне ад Божага анёла, як зразумець тое, што адбываецца. Божае дзеянне перарастае магчымасці чалавечага разумення. Анёл растлумачыў Юзэфу, хто такі Езус і што Юзэф павінен зрабіць. Юзэф, асвечаны Божай навукай, без супраціву, без каментару, ціха, пакорна і паслухмяна выконвае Божую волю. Ён – узор сапраўднага мужчыны, Божага мужа, адказны, надзейны, пабожны, чысты і пакорны.

*– Што раблю, калі сустракаюся з чымсьці, чаго не разумею? Або з тым, што перарастае маю свядомасць?*

*– Ці ўзношу ў такія хвіліны свой позірк да Бога?*

*– Ці наадварот, абапіраюся на свае здагадкі і меркаванні?*

*– Цяжкія крызісныя сітуацыі перажываю як час узмацнення маіх сувязей з Богам ці як час адыходу ад Яго?*

*– Ці цярплівы я, калі даводзіцца чакаць Божае слова?*

*– Ці адкрыта маё сэрца на Яго слова?*

*– А можа, мне не падабаецца “анёл”, якога Бог пасылае да мяне?*

*– А можа, мне не падабаецца тое, што Бог гаворыць праз гэтага “анёла”?*

*– А можа, закрываю сваё сэрца, бо баюся? Баюся характарыстыкі бязбожных людзей і свецкіх філасофаў?*

*– Ці выкарыстоўваю шанс, які дае мне Божая інтэрвенцыя?*

*– Ці супрацоўнічаю з тым, што Бог робіць ува мне?*

*– Ці бяру дадзены Богам шанс у свае рукі і ці выконваю Яго волю?*

Разважанні падрыхтаваў **кс. Павел Кнурэк**

# СУСТРЭЧА СВЯТАРОЎ

Глыбокае

**У Глыбокім ва ўрачыстасць св. Язафата Кунцэвіча адбылося дыяцэзіяльнае спатканне святароў і законных сясцёр з Апостальскім Адміністратарам Віцебскай дыяцэзіі кс. прэлатам Францішкам Кісялём.**

■ **Марына Сінкевіч,** тэкст і фота



Сустрэча распачалася малітвай брэвярыя – штодзённай малітвай святароў. Пасля адбылася канферэнцыя на тэму граху. "Грэх – гэта адсутнасць узаемаадносін чалавека з Айцом" – зазначыў а. Станіслаў Памыкала SJ. Таксама ён звярнуў увагу на тое, што калі мы не ўмеем пакланяцца Богу ў духу ісціны, то мы нічога не ўмеем. Айцец дае жыццё памерлым. Без Яго мы не можам нічога.

"Калі чалавек хоча быць вольным, павінен быць у супольнасці, але не павінен у ёй растварацца, а заставацца самім сабой. Таму часам патрэбна чалавеку пабыць у адзіноце", – прамовіў святар.

Пасля канферэнцыі адбыліся выстаўленне Найсвяцейшага Сакрамента і адарацыя ў цішыні.

Урачыстую св. Імшу цэлебраваў Апостальскі Адміністратар Францішак Кісель. Гамілію прамовіў Апостальскі Адміністратар для грэка-католікаў у Беларусі а. Сяргей Гаек, які звярнуў увагу на асобу святога Язафата.

На заканчэнне былі зроблены аб'явы для парафій і асабіста для святароў.

## Увага! Падпіска!

**Дарагія сябры!**

Пачалася падпісная кампанія на 1-е паўгоддзе 2014 года. Кошт падпіскі на месяц – **3050 руб,** на тры месяцы – **9150 руб,** на 6 месяцаў - **18300 руб.** Зрабіць гэта можна ў любым аддзяленні "Белпошты".

Наш падпісны індэкс 63783

Падпісваючыся на нашу газету, вы дапамагаеце нам абвяшчаць Евангелле, расказваць людзям пра Хрыста і яго Касцёл. "Каталіцкі Веснік" таксама можа быць добрым падарункам вашым блізкім. Падпішыце на яго сваіх сяброў і падарыце ім Добрую Вестку!

***Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"***

# ФОТАКОНКУРС "ПАДАРЫ ЎСМЕШКУ ВЕСНІКУ!"

**Дарагія сябры! Не сакрэт, што кожны чалавек любіць цяпло, сонца і дабрыню. Мы часта стамляемся ад негатыўнай інфармацыі і сумуем па станоўчых навінах. Паспрабуйма зрабіць свет вакол нас лепшым і больш прыязным. Давайце падорым адно аднаму ўсмешку.**

**Запрашаем Вас прыняць удзел у чарговым конкурсе нашай газеты – "Падары ўсмешку Весніку!" Што трэба зрабіць? Дашліце нам фотаздымкі ўсмешак. Фатаграфуйце сваіх блізкіх, родных або зусім незнаёмых Вам людзей. Галоўнае, каб на здымку была шчырая ўсмешка чалавека.**



1 Перыяд правядзення конкурсу:
Пачатак: **18 лістапада 2013 года.**
**Фотаздымкі прымаюцца да 8 снежня 2013 года.**
Галасаванне: **ад 8 снежня да 15 снежня 2013 года.**
Падвядзенне вынікаў: **16 снежня 2013 года**

2 Прызы конкурсу:
– каштоўныя прызы;
– падпіска на газету "Каталіцкі Веснік";
– публікацыя фотаздымкаў пераможцаў у снежаньскім нумары газеты.

3 Журы конкурсу: аўтарызаваныя карыстальнікі сайта і супрацоўнікі рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік".

4 **Правілы і ўмовы конкурсу:**
– у конкурсе могуць прыняць удзел толькі 3 фотаздымкі ад аднаго ўдзельніка;
– фатаграфаваць можна людзей любога ўзросту;
– здымкі могуць быць зроблены як прафесіяналамі, так і фатографамі-аматарамі;
– да здымка трэба дадаць наступную інфармацыю: назву здымка, імя і прозвішча аўтара, кантактныя дадзеныя;
– здымкі на конкурс трэба дасылаць на электронную пошту mail@catholicnews.by з подпісам КОНКУРС;
– на конкурс не прымаюцца фотаздымкі з непрыстойным зместам, вельмі нізкай якасці, размытыя, цёмныя, а таксама спампаваныя з інтэрнэту;
– фотаздымкі прымаюцца строга да 8 снежня. Дасланыя пасля гэтай даты здымкі не будуць апублікаваныя;
– галасаваць за фотаздымак на сайце могуць толькі аўтарызаваныя карыстальнікі. Каб прагаласаваць, калі ласка, зарэгіструйцеся на сайце catholicnews.by.

Колькасць прызавых месцаў установіць рэдакцыя, зыходзячы з актыўнасці анлайн-галасавання.

**Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"**




**Прапануем вам праверыць сваё веданне тэкстаў Святога Пісання.**

1 Хто памёр такой смерцю, якой не паміралі да яго і не будуць паміраць пасля яго?
а) Абэль
б) Енох
в) жонка Лота
г) Абрагам

2 Які знак даў Бог, што больш не будзе патопу?
а) вясёлка
б) кроплі расы
в) маланка
г) паўночнае ззянне

3 Колькі вокнаў меў каўчэг?
а) адно
б) два
в) тры
г) чатыры

4 Хто жыў яшчэ пры Адаме, але не спазнаў смерці?
а) Абрагам
б) Іафет
в) Енох
г) Ламех

5 Колькі дзён Майсей быў на гары, калі атрымліваў ад Бога скрыжалі Запавету?
а) 20
б) 33
в) 35
г) 40

6 Як звалі біблейскага доўгажыхара, які пражыў даўжэй за ўсіх?
а) Ламех
б) Мафусал
в) Енос
г) Іарэд

7 У якім горадзе вучні Хрыста ўпершыню сталі называцца хрысціянамі?
а) Іерусалім
б) Рым
в) Антыёхія
г) Кападокія

8 Колькі рыб вылавілі вучні пасля таго, як уваскрослы Езус загадаў ім закінуць сеткі па правы бок лодкі?
а) 35
б) 100
в) 135
г) 153

9 Каму Езус сказаў: "Адыдзі ад мяне, сатана?"
а) Юду
б) Пятру
в) Яну
г) Марыі Магдалене

10 Як звалі першую хрысціянку, якая навярнулася ў Еўропе?
а) Елізавета
б) Марыя Магдалена
в) Лідзія
г) Саламея

**Падрыхтавала Вікторыя Колзун**

Адказы шукайце на стар.5

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі
**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне «Віцебская дыяцэзія Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ»
**Выдавец:** рэлігійная місія «Дабрачыннае каталіцкае таварыства «Карытас» Віцебскай дыяцэзіі Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Каталіцкі Веснік», перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня», г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4 Заказ 8434

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах Тыраж 3100 экз. Аб'ём 2 друкаваныя аркушы, фармат А3 Афсетны друк Падпісана ў друк 18.11.2013 г. у 20.49

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211730, вул. Кірава, д.6, г.п. Бягомль, Докшыцкі р-н, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(02157)3-30-44
e-mail: mail@catholicnews.by
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621
9772224962006
Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі РБ